**№ 96(678)**

Аўторак, 1 чэрвеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.


# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас



**Стоп-кадр**



*1 июня — Международный день защиты детей.*

## ...И на заседаниях Евроатлантической Ассамблеи шла речь о Беларуси

Делегация Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва в составе Анатолия Лебедько и Мечеслава Гриба принимает участие в заседании Евроатлантической Ассамблеи, которая завершает сегодня свою работу в Варшаве. Парламентарии из более чем 30 стран обсуждали вопросы безопасности, политического и экономического развития Европы, ситуацию в Косово.

Депутаты Верховного Совета Республики Беларусь привлекли внимание своих коллег к крайне неблагоприятной ситуации в Беларуси.

## 4 июня в Минске пройдет очередное заседание Совета глав правительств государств — участников СНГ

4 июня в Исполнительном комитете СНГ в Минске пройдет заседание Совета глав правительств государств — участников Содружества. Как сообщили в пресс-службе штаб-квартиры СНГ, в повестке дня встречи премьер-министров — около тридцати вопросов.

Ее первый раздел составляют проекты документов, подготовленных Специальным межгосударственным форумом по проблемам реформирования СНГ и совершенствования деятельности его органов. Так, главам правительств предстоит обсудить основные направления формирования зоны свободной торговли, утвердить положения об Экономическом совете и Исполнительном комитете Содружества, рассмотреть вопрос о численности персонала органов СНГ и их едином бюджете.

Второй раздел повестки дня минской встречи премьер-министров составляют вопросы, согласованные на уровне Совета министров иностранных дел, Совета министров обороны, президиума Межгосударственного экономического комитета. Среди них — проекты решений о Концепции информационного обмена между органами внутренних дел и о перечне статистических показателей борьбы с организованной преступностью, о финансировании разработки программы военно-технического сотрудничества, некоторые другие документы.

В третьем разделе повестки дня содержатся вопросы, вносимые для обсуждения и принятия соответствующих решений. В их числе — проекты документов, которые способны стать правовой базой для создания отдельных элементов зоны свободной торговли.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ.**

**Газета — читатель**

## Не стали на колени. И не станем!

**В стране много газет. Но "Народная воля" — единственная ежедневная республиканская независимая газета. Ее девиз с первого номера — писать правду, какую бы опасность это ни представляло для редакции.**

**Нас запрещали распространять, мы вынуждены были печататься в Литве, но мы не стали на колени. И не станем!**

**В третьем квартале "Народная воля" будет еще интереснее — есть много задумок, проектов. Редакция откроет ряд корреспондентских пунктов за рубежом. Словом, предпринимается все для того, чтобы газета выходила на более высокие позиции.**

**Индекс "Народной воли" — 63222.**
**Цена подписки: на месяц — 240.000 рублей, на квартал — 720.000.**
**Вы с "Народной волей", "Народная воля" — с Вами!**

## Стала вядома папярэдняя праграма слуханняў па Беларусі, якія пройдуць 11—13 чэрвеня ў Бухарэсце пад эгідай АБСЕ

Стала вядома папярэдняя праграма слуханняў па Беларусі, якія пройдуць 11—13 чэрвеня ў Бухарэсце пад эгідай Парламенцкай Асамблеі АБСЕ з удзелам прадстаўнікоў беларускіх афіцыйных улад, апазіцыі і няўрадавых арганізацый. У спісе запрошаных на чэрвеньскія слуханні ад афіцыйных улад — дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Абрамовіч, кіраўнік Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына, старшыня Канстытуцыйнага суда Рыгор Васілевіч, кіраўнік Нацыянальнага цэнтра законапраектнай дзейнасці пры прэзідэнце Ігар Андрэеў і прадстаўнік Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай.

Апазіцыя на слуханнях будзе прадстаўлена дэпутатам Вярхоўнага Савета 13-га склікання, лідэрамі дзвюх палітычных партый — старшынёй Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікалаем Статкевічам і намеснікам старшыні Беларускага народнага фронту Леанідам Баршчэўскім, — былым старшынёй Канстытуцыйнага суда Валерыем Ціхіняй, а таксама прадстаўнікамі Нацыянальнага выканаўчага камітэта ("ценявога" ўрада рэспублікі).

"Трэці сектар" на слуханнях будуць прадстаўляць Беларускі Хельсінкскі камітэт, грамадзянская ініцыятыва "Хартыя'97", Інстытут даследаванняў Усход—Захад, Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, шэраг іншых няўрадавых арганізацый. Чакаецца, што ўдзельнікі сустрэчы прыбудуць у сталіцу Румыніі 11 чэрвеня. У гэты ж дзень пройдзе першая пленарная сесія з агульнай дыскусіяй па тэмах "заканадаўчая ўлада", "СМІ" і "выбары". Абмеркаванне гэтых пытанняў прадоўжыцца 12 чэрвеня. Выніковае пленарнае пасяджэнне — 13 чэрвеня — будзе прысвечана падвядзенню вынікаў слуханняў і выпрацоўцы рэкамендацый.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Посол Индонезии вручил верительные грамоты президенту Беларуси

В конце минувшей недели Чрезвычайный и Полномочный посол Индонезии в Беларуси Кока Виджанарка вручил верительные грамоты президенту Беларуси Александру Лукашенко. "Беларусь для Индонезии — страна хорошо знакомая, — подчеркнул дипломат во время церемонии. — Наши отношения сложились еще во времена существования БССР, а сразу после объявления независимости Беларуси начался новый этап контактов". Сейчас, по словам посла, в стадии подготовки находится ряд двусторонних торгово-экономических соглашений, которые призваны еще больше активизировать связи между двумя государствами.

Как отметил президент Беларуси, белорусские власти также необычайно заинтересованы в развитии, в первую очередь, торгово-экономических отношений. Не последняя роль отводится и контактам политическим. Александр Лукашенко пообещал индонезийскому дипломату всяческое содействие в его работе и поддержку по всем инициативам, которые пойдут на пользу партнерству.

**Александр ПОПОВИЧ.**

**Зеркало**

## Нападение на "Гребенский мост"

Один военнослужащий внутренних войск убит и 13 ранены минувшей ночью в результате боя в приграничном районе Дагестана. Вооруженная группа численностью до 60 человек совершила нападение на контрольно-пропускной пункт "Гребенский мост" на границе с Чечней. Нападение было отбито военнослужащими войск МВД и дагестанскими милиционерами.

## Скуратов не смог вылететь за границу

Юрий Скуратов не смог вылететь в Швейцарию на международную конференцию по борьбе с коррупцией, так как накануне был аннулирован его новый заграничный паспорт. Скуратов расценил это как правовой беспредел и грубейшее нарушение конституционного права на свободу передвижения. Замначальника главного военного прокурора Юрий Яковлев заявил, что его ведомство никаких документов, запрещающих Скуратову выезд за границу, не направляло. Юрий Скуратов был отстранен указом президента от должности генпрокурора 2 апреля. В настоящее время главная военная прокуратура расследует уголовное дело, по которому Скуратов проходит свидетелем.

## Миллиардные кредиты Украине

Международный валютный фонд принял решение о предоставлении Украине 180-миллионного кредита, а также дополнительной финансовой помощи на сумму в 366 миллионов долларов. Общая сумма ссуды Украине на протяжении 3-х лет составит 2 миллиарда 600 миллионов долларов. МВФ заявил, что Киев должен реструктуризовать задолженности частного сектора до того, как фонд предоставит Украине новую ссуду.

## Депутат обвиняется в организации заказных убийств

Суд Новгорода отказался выпустить на поруки депутата законодательного собрания Санкт-Петербурга Юрия Шутова, обвиняемого в организации заказных убийств политиков и предпринимателей. Прежняя мера пресечения — содержание под стражей — оставлена без изменения. По заявлению адвокатов Шутова, за него поручились 15 депутатов Государственной Думы. Многие из них позднее опровергли этот факт. Юрий Шутов был арестован в феврале этого года в Санкт-Петербурге.

## Падсудныя заявілі аб сваёй невінаватасці і аб тым, што паказанні падчас папярэдняга следства яны далі пад уздзеяннем фізічнага і псіхалагічнага ціску

У Вярхоўным судзе Рэспублікі Беларусь прадоўжылася слуханне справы ў дачыненні да трох магіляўчан — Рамана Радзікоўскага, Віктара Янчэўскага і Анатоля Гаўрылава, — якія абвінавачваюцца ў арганізацыі бандыцкай групы і ўчыненні тэрарыстычнага акту ў дачыненні да старшыні камітэта дзяржкантролю Магілёўскай вобласці Яўгена Мікалуцкага, а таксама ў падрыхтоўцы замаху на прэзідэнта Аляксандра Лукашэнку, захоўванні зброі і іншых злачынствах.

Суд над імі пачаўся 21 красавіка г.г., справу вядзе судовая калегія пад старшынствам Фёдара Чубкаўца. Працэс аб'яўлены закрытым, на яго не дапускаюцца не толькі журналісты і грамадскія абаронцы, але і родныя абвінавачваемых. Па некаторых звестках, быў дапытаны адзін з апошніх сведкаў. У бліжэйшыя дні пачнуцца спрэчкі бакоў.

Як ужо паведамлялася, самі падсудныя заявілі аб сваёй невінаватасці і аб тым, што паказанні падчас папярэдняга следства яны далі пад уздзеяннем фізічнага і псіхалагічнага ціску. У сувязі з гэтым у суд былі запрошаны і дапытаны супрацоўнікі магілёўскай міліцыі, пракуратуры і іншых органаў, што праводзілі расследаванне. Падчас суда шэраг сведкаў адмовіліся ад сваіх ранейшых паказанняў, заявіўшы, што далі іх пад ціскам і пагрозамі следчых.

**Генадзь БАРБАРЫЧ, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



*Минск. Уголок площади Независимости.*

Фото Александра ДИДЕВИЧА, БелТА.

## Аўтобусных рэйсаў паменела на пятнаццаць

На 13 прыгарадных маршрутах Слуцкага раёна з сярэдзіны мая адміністрацыя аўтобуснага парка №2 "выкрасліла" па адным маршруце, а на двух — аж па два. Тлумачэнне такім захадам — рост цэн на гаруча-змазачныя матэрыялы і запчасткі, недастатковае выдзяленне дадатковых сродкаў з бюджэту на кампенсацыю непакрываемых затрат ад перавозак пасажыраў. Найбольш нязручнасцей адчулі вяскоўцы, якія карыстаюцца рэйсамі Слуцк—Рабак і Слуцк—Сорагі. Да першага "прывязаны" па маршруце 12 вёсак і вёсачак, да другога — 9 і на абодвух аўтобусы заўсёды ішлі перапоўненымі. Цяпер паміж першымі ранішнім і другім рэйсамі на гэтых напрамках утварыўся "прабел" у 8—9 гадзін, што перш за ўсё нязручна калгаснікам, у якіх летам і дома на калгасных угоддзях работ — як кажуць, па самую завязку.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

Пр. Акакія, Дзмітрыя, Івана, Ігната, Карнелія, Патрыкія, Сяргея.
К. Кандрата, Якуба.

МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ

**ЧЭРВЕНЬ**

**1**

**'99 АЎТОРАК**

Усход 4.45
Захад 21.32
Даўж. дня 16.47

Поўня
30 мая
Захад 7.29
Усход —

## Сын Тамары Віннікавай лічыць, што ягоную маці выкралі ў сувязі з развалам крымінальнай справы, узбуджанай супраць яе

На думку Сяргея Віннікава, малодшага сына былой старшыні Нацыянальнага банка Беларусі Тамары Віннікавай, знікненне маці (яно, нагадаем, адбылося 8 красавіка г.г.) трэба звязваць з тым, што ўзбуджаная ў дачыненні да яе крымінальная справа развалілася. Яе трэба або закрываць і, адпаведна, прызнаваць сваё паражэнне, або перадаваць у суд. А таму, лічыць С.Віннікаў, "знікненне падследнай — ідэальнае выйсце для людзей, маючых сёння ўладу".

Аб гэтым заявіў сын эксківаўніка Нацбанка.

Сяргей Віннікаў не верыць у версію ўцёкаў маці. Да таго ж, адзначае ён у публікацыі, калі б яна збегла, то ўжо аб'явілася б у нейкай краіне. Паводле слоў С.Віннікава, "ёй абсалютна няма чаго баяцца, таму што па тых абвінавачваннях, якія ёй прад'яўлены, любая краіна спакойна дала б палітычнае прыстанішча".

Як сцвярджае сын Тамары Віннікавай, "маму стараліся нейтралізаваць" і ў сувязі з тым, што яна — "фігура прыкметная, палітычная" ў сілу "сваіх спецыяльных ведаў і пэўнай інфармацыі". Ён не выключае, што Т.Віннікава на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах далучылася б да каманды Чыгіра або Карпенкі, і інфармацыя, якой яна валодае, "магла бы аказаць сур'ёзнае ўздзеянне на людзей".

Паводле звестак Сяргея Віннікава, падчас сустрэчы аднаго з лідэраў апазіцыі — Генадзя Карпенкі з маці яна перадала яму "даволі сур'ёзную інфармацыю" і дакументы. Неўзабаве пасля іх сустрэчы, як вядома, Г.Карпенка раптоўна памёр ад кровазліцця ў мозг, а Віннікава бясследна знікла. У ўсё ж Сяргей Віннікаў верыць, што маці жывая і ўтрымліваецца недзе, "на нейкай кватэры, да таго перыяду, пакуль у іх не сфарміруецца поўнасцю справа і яны змогуць сказаць, што Віннікаву знайшлі, і яе пасадзяць у турму".

**Юрый КУЗНЯЦОЎ, БелаПАН.**



**Дыскусія**

## Дык хто ж дапускае недакладнасці?

5 мая ў "Народнай волі" быў надрукаваны ліст старшыні цяперашняга Канстытуцыйнага суда Р.Васілевіча. У ім зроблена спроба даць "пераканаўчы" адказ вядомаму беларускаму палітыку А.Лябедзьку з пункту гледжання аўтара як афіцыйнай асобы. І калі Р.Васілевіч просіць апанента не дапускаць недакладнасці, то я гэтыя словы адрасую ў першую чаргу яму самому. Што значыць сцвярджэнне: "26 лістапада 1996 года большасцю дэпутатаў Вярхоўнага Савета быў прыняты закон, які пацвердзіў абавязковы характар рэферэндуму". Тут Р.Васілевіч ні больш, ні менш прызнае, што падчас правядзення рэферэндуму, гэта значыць да 24 лістапада, абавязковы яго характар не быў вызначаны, альбо не быў "пацверджаны большасцю дэпутатаў". Такім чынам, за два дні кіруючым рэжымам ажыццёўлены непрыкрыты падман шматмільённых выбаршчыкаў. Усім вядома, што рашэннем Канстытуцыйнага суда (а Р.Васілевіч быў членам таго суда) рэферэндуму быў нададзены дарадчы (рэкамендацыйны) характар.

І ўрэшце, 26 лістапада 1996 года Вярхоўны Савет не мог прыняць ніякіх законаў, бо сам Савет знаходзіўся ў стане разгрому. Менавіта раніцай 25 лістапада 1996 года (першая раніца пасля рэферэндуму) на шляху ў Авальную залу дэпутаты Вярхоўнага Савета 13-га склікання былі сустрэты "дубіналам" міліцыі, узброенай лёгкай стралковай зброяй. Тое ж самае паўтарылася і 26 лістапада 1996 года.

Адначасова ў гэтыя хвіліны 103 дэпутаты-перабежчыкі з агульнага ліку дэпутатаў Вярхоўнага Савета па асабістым запрашэнні А.Лукашэнкі і яго памагатых збіраюцца ў асобым месцы і, імкнучыся дагадзіць свайму "бацьку" і атрымаць адпаведныя кампенсацыі, прымаюць, словамі Р.Васілевіча, сваёй "большасцю дэпутатаў" патрэбныя кіруючаму рэжыму законы і "пацверджанні". (Ад сябе заўважу, што ў ліку такой "большасці" са 103 чалавек быў і дэпутат з маёй выбарчай акругі — В.Драко.)

Па-трэцяе, калі, як заклікае Р.Васілевіч, быць дакладным, то неабходна зазначыць, што 103 дэпутаты-перабежчыкі не складаюць большасці ад агульнай колькасці дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Усім добра вядома, што агульная колькасць дэпутатаў, або колькасць аднамандатных выбарчых акругаў, складае 260 чалавек. Такім чынам, каб разважаць пра большасць дэпутатаў, спадару Р.Васілевічу неабходна было разам з А.Лукашэнкам склікаць у сваю "гасцёўню" хаця бы самае малое 131 чалавека. Але гэтага не было зроблена.

Далей: для прыняцця, па словах Р.Васілевіча, пацверджання аб наданні абавязковага характару рэферэндуму неабходна было адмяніць рашэнне Канстытуцыйнага суда аб дарадчым характары рэферэндуму. А для гэтага дзве трэці галасоў дэпутацкага корпусу ну ніяк не былі б лішнімі. А 2/3 галасоў — гэта ніяк не меней 174. Дык аб якой большасці дэпутатаў сцвярджае Р.Васілевіч? Хіба 103 больш за 131 ці за 174? Як цяпер разумець: улада не ўмее лічыць ці дапускае, што беларусы не ўмеюць лічыць да 260?

Яшчэ адным упушчэннем Р.Васілевіча з'яўляецца тое, што ён ігнаруе шматлікія парушэнні і злоўжыванні, дапушчаныя падчас правядзення рэферэндуму. Больш за 2000 парушэнняў і злоўжыванняў да гэтага часу не разгледжаны судамі, у тым ліку і Канстытуцыйным судом. Вось толькі адно вельмі відавочнае злоўжыванне і парушэнне адначасова. Чаму для правільнага падліку колькасці пададзеных галасоў спатрэбілася замяніць старшыню Цэнтрвыбаркама? У дадзеным выпадку размова ідзе пра незаконнае зняцце з пасады В.Ганчара і самавольнае прызначэнне А.Лукашэнкам спадарыні Л.Ярмошынай.

Недакладнасцю ліста Р.Васілевіча з'яўляецца і тое, што старшыня Канстытуцыйнага суда не заўважае, што 103 дэпутаты-перабежчыкі з Вярхоўнага Савета беспадстаўна абвясцілі сябе яшчэ і членамі новастворанай імі Палаты прадстаўнікоў. Ніхто ў Беларусі гэтых дэпутатаў-перабежчыкаў у такой якасці не выбіраў. Больш таго, згодна з артыкулам 143 "бацькавай" канстытуцыі "Вярхоўны Савет і прэзідэнт утвараюць Палату прадстаўнікоў". Дык дзе ж удзел Вярхоўнага Савета, калі Вярхоўны Савет быў разагнаны з дапамогай "дубіналу"? Можа, хоць тут спадар Р.Васілевіч выкарыстае свае паўнамоцтвы ў якасці канстытуцыйнага суддзі?

Недакладнасцю артыкула Р.Васілевіча з'яўляецца ігнараванне той відавочнай акалічнасці, што 110 так званых дэпутатаў-палатнікаў падманулі сваіх выбаршчыкаў. Гэты падман заключаецца ў тым, што падчас выбараў гэтыя 110 дэпутатаў-палатнікаў (перабежчыкаў) выдавалі сябе за кандыдатаў народа ў дэпутаты Вярхоўнага Савета, а не за адданых "бацьку" палатнікаў. У сучасны момант, як і на працягу ўсіх трох гадоў сваёй улады, гэтыя дэпутаты-перабежчыкі (палатнікі) не прадстаўляюць інтарэсы сваіх выбаршчыкаў. Яны выступаюць ад імя саміх сябе і свайго "бацькі".

Пералік недакладнасцей ліста Р.Васілевіча можна яшчэ доўжыць, але не хапае пальцаў дзвюх рук для іх ліку.

**Станіслаў УРБАНОВІЧ,**
**навуковец.**

Мінск.

